# Новыя гадаўляныя законы.

**Закон аб гадоўлі быдла, сьвіней і авец.**
(*„Dz. U. R. P." Nr.40, 1934*).

Ад 15 траўня сёл. ў Польшчы абавязвае новы закон аб даглядзе над гадоўляй быдла (скаціны), сьвіней і авец. Галоўныя пастановы гэтага закону наступныя: —

Дагляд над гадоўляй быдла, сьвіней і авец выконвае Земляробская Палата, якая вядзе пляменныя кнігі і выдае пасьведчаньні аб родаводах. Спэцыяльная ўвага зьвяртаецца натуральна на расплодны матэрыял. Чужыя каровы, сьвіні і авечкі можна пакрываць толькі такімі расплоднікамі, якія вызначаны для данага гадаўлянага вокругу. Век расплоднікаў: для бугаёў (быкоў) ня можа быць меншы 10 мес., для кнуроў — 6 месяцаў, для бараноў —3 мес. Расплоднікаў-самцоў выбірае толькі адумысловая гэт. зв. кваліфікацыйная камісія. Кожны, хто мае самца-расплодніка, павінен яго запісаць у гміне і прывадзіць (прывазіць) на абвешчаны перагляд кваліфікацыйнай камісіі.

Аб забесьпячэньні патрэбнай колькасьці расплоднікаў мае старацца гмінны і паветавы самаўрад. На закуп расплоднікаў дае грошы: казна 10 прац., паветавы самаўрад („соймік") — 25 прац. і рэшту — 65 прац. мусяць пакрыць самі зацікаўленыя гадаўцы жывёлы.

Чужую жывёлу можна пакрываць толькі такім самцом-расплоднікам, каторага прызнае здатным кваліфікацыйная камісія. Гэта-ж камісія можа для прыватнага ўжытку гадаўца пакінуць і такога самца-расплодніка, каторы ня здатны для ўжытку публічнага. Але такога расплодніка можна ўжываць толькі ў сваёй прыватнай гаспадарцы ды за іх можа быць устаноўлены на карысьць Земл. Палатаў і гмінных самаўрадаў наступны гадавы падатак: за бугая — 50 зл., за кнура — 25 зл. і за барана - 10 зл.

За нестасаваньне гэтых законных пастановаў гразяць грашовыя кары.

Да 20 цёх зл. штрафу караны будзе той

1. хто не запісвае ў гміне расплодніка, або не вядзе яго на перагляд кваліфікацыйнай камісіі.

2. хто дапускае магчымасьць пакрыцьця няпрызнаным расплоднікам чужых кароваў, сьвіняў ці авец.

Да 300(трохсот) зл. штрафу караны будзе той

1. хто пакрывае няпрызнаным расплоднікам чужую карову, сьвіню ці авечку,

2. хто бяспраўна вядзе кнігі племнай гаспадарскай жывёлы і выдае радаводы і пасьведчаньні,

3. хто бяспраўна называе сваю жывёлу племнай.

**Закон аб гадоўлі коняў.**
(*„Dz. U. R. P." Nr.32, 1934*).

Ад дня 1 ліпня сёл.ўваходзіць у сілу таксама новы закон і аб гадоўлі коняў. Паводле гэтага закону Земл. Палаты, або з Мініст. Земл. ведама таксама прыватныя гадаўляныя таварыствы вядуць племныя і гадаўляныя кнігі і выдаюць пасьведчаньні аб паходжаньні жывёлы.

Міністэрства земляробства, у паразуменьні з мініст. спраў вайсковых азначвае вакругі, дзе і якія расы коняў маюць гадавацца. На падставе гэткага падзелу гадаўляных вакругоў, кваліфікацыйныя камісіі ня могуць зацьвярджаць да публічнага ўжытку найлепшых хоць-бы племнікаў тых расаў, каторыя ў гэтым вокрузе ня прызнаны міністэрствам.

Уласьнікі трыгадовых і старшых жарабцоў павінны запісаць іх у гміне і вясьці да перагляду кваліфікацыйнай камісіяй.

Пакрываць чужыя племныя штукі можна толькі такімі расплоднікамі (жарабцамі), каторыя будуць прызнаны кваліфікацыйнымі камісіямі на сумысных раённых пераглядах. Для прыватнага ўжытку можна ўжываць расплодніка і такога, каторы ня прыгодны для ўжытку публічнага; толькі ўласьнік такога расплодніка-жарабца абкладаецца гадавым падаткам у суме 50 зл. за штуку.

Коні запісаныя ў племныя кнігі звальняюцца ад надзвычайных самаўрадавых падаткаў, а таксама і ад шарваркаў, калі ўласьнік аплаціць роўнавартасьць паводле ўрадавай таксы. Калі ўласьнік племнай конскай штукі іншага каняння мае, тады гэта племная штука зусім звальняецца ад абавязку шарварку.

Незастасаваньне гэтага закону будзе карацца грашовым штрафам. Да 300 (трохсот) зл. штрафу будзе плаціць той, хто чужую кабылу пакрывае жарабцом няпрызнаным кваліфікацыйнай камісіяй. Да 20 зл. штрафу будзе плаціць той, хто дапускае магчымасьць, што ягоная кабыла будзе пакрыта жарабцом няпрызнаным кваліфікацыйнай камісіяй; хто не запісвае ў гміне жарабца ад трох гадоў уверх, абс хто запісанага жарабца не вядзе на перагляд кваліфікацыйнай камісіі.

Расплоднікаў няпрызнаных кваліфікацыйнай камісіяй гаспадар мусіць кастраваць (лягчыць). Хто гэтага ў азначаным часе ня зробіць самавольна, таму гэта можа зрабіць улада адміністрацыйная (паветавае староства) на кошт самога-ж гаспадара.

* * *

Законы гэтыя, пэўна-ж, імкнуцца да ўпарадкаваньня і падняцьця жывёлагадоўлі. Але самыя законы, хай яны будуць найлепшымі, ніколі да мэты не давядуць, калі самі гадаўцы не зацікавяцца справай, калі не зразумеюць яе, як сваю ўласную карысьць. Да гэтага аднак ня йдзём, бо агульны кірунак гаспадарчай палітыкі хутчэй забівае прыватную гаспадарчую ініцыятыву, чымся яе падпіраць.

Б. В.

# Шкоднік пядзямер.

(*Cheimatobia brumata*).

Яшчэ ў добрай памяці леташнія страты ў садох, дзе замест зялёных дрэваў асталіся голыя сукі, а тут і сёлета з шмат мясцоў, пераважна тых самых што і летась, наказваюць нам аб тых-жа шкодніках і тых-жа выніках. Усё гэта робіць гусьвіца (рабак) пядзямера, названага так дзеля таго, што перасуваючыся з месца на месца выгібаецца лукам, падцягваючы зоднія ногі пад сам перад, як быццам мерыла пядзі. Належыць пядзямер да найпрыкрэйшых „гасьцёў" у фруктавым садзе, бо **аб'ядае пупушкі** (покаўкі), **лісты і маладыя плады.** Небясьпечнасьць ягоная тымбольшая, што раз дастаўшыся ў сад, уступае стуль толькі тады, калі супроць яго стасуюцца якія— небудзь абаронныя меры.

Гусьвіца пядзямера гэта зелянкавы, з сьветлымі ўздоўж цела пояскамі рабак, з дзесяцьцю нагамі. Па дрэве пераходзіць „пядзямі," а з сука на сук і на зямлю спускаецца ў павучыньні. Спусьціўшыся на зямлю гусьвіцы дасьпяваюць у крылатых самцоў і бяскрылых самак.

Шкоднасьць пядзямера усім зразумелая і таму яго трэба нішчыць усюды і заўсёды. Найадпаведнейшым аднак да гэтага часам ёсьць той мамэнт, калі дасьпелая самка выходзіць у дарогу класьці яйкі. Робіць яна гэта не на зямлі, але на дрэве, куды і выпраўляецца пехатой, бо, як было сказана, крылаў ня мае. У беларускіх кліматычных варунках гэта бывае каля 10 кастрычніка, і ў гэту пару трэба самак лавіць і нішчыць. Робіцца гэта пры помачы ліпкіх паясоў, шырынёй у 15—20 см., шчыльна накладаных на камёл фруктовых дрэваў. Істота гэтага спосабу барацьбы ў тым, што самкі шкодніка пядзямера, паўзучы ўверх па дрэве напатыкаюць па дарозе ўспомнены ўжо ліпкі пояс, самі на яго прыліпаюць і гінуць, а дрэва адратоўваецца такім чынам ад непажаданага „падарунку," з каторага на будучы год вырасла-б новае пакаленьне пражорлівых гусьвіцаў.

Ясна, што ўдача гэтага спосабу абароны проці пядзямера будзе залежыць ад: 1. адгаданьня часу, калі самкі пядзямера адпраўляюцца ў дарогу, каб злажыць яйкі, 2 ад шчыльнасьці і наагул дакладнасьці залажэньня ліпкага пояса, 3. ад гатунку ліпкай масы, якой націраюцца абаронныя паясы і 4. ад сталага кантраляваньня ліпкасьці гэтай масы.

Час або пару накладаньня ліпкіх паясоў у нашых варунках азначаюць больш-менш каля 10 кастрычніка. Адзін год гэта пара можа параніцца, а другі — прыпазьніцца. Гэта вымагае, каб уласьнік саду ўжо ад канца верасьня пільна сачыў, ці не вандруюць ужо ўверх па дрэве якія самкі і калі так, дык мусіць успоўсшых ужо паськідаць, і на дрэве, ня высока, залажыць ліпкі пояс.

Закладаньне пояса — важная рэч. Прадаюцца гэтыя паясы гатовыя, але іх часта лепш прыгатаваць самому. Бярэцца на гэта аркуш паперы ўшырку на 20 см. і шчыльна абкручываецца каля кары. Калі ў нейкім месцы кара няроўныя, дык яна асьцярожна нажом зразаецца і раўняецца; а калі пад апаяскай здарыцца большая ці меншая шчэлачка, дык яна залепліваецца глінай, кітам ці нечым падобным. Гэтак наложаную апаяску абмазваюць якой-небудзь ліпкай масай, але не на ўсю шырку, а толькі пасярэдзіне няшырокім і **нягрубым** паясом.

Наложаныя і абмазаныя апаяскі ня можна аднак пакідаць без дагляду; раз што самі паясы могуць сапсавацца ці і сусім апасьці, а другое — найлепшая нават ліпкая маса пры добрай (ня лішне сухой і ня мокрай) пагодзе з часам або сохне, або змываецца, або ўрэшце і незасохшы і нязмыты клей, калі шмат на ім налепіцца ўсякіх мошак, дык яны самі твораць ужо быццам памост, на каторым дальшыя шкоднікі могуць „сухой нагой" пераходзіць і падымацца ўверх: у такім выпадку трэба або паправіць апаяску старую, або замяніць яе зусім новай. Гэтак устроеныя і дагледжаныя апаяскі бароняць садовыя дрэвы сусум добра.

Акрамя гэтага способу, ёсьць яшчэ спосабы іншыя. Вясной, як толькі дрэвы адцьвітуць, іх спырсківаюць расьцечай гэт. званай парыскай зелені. Ёсьць гэта зялёны парашок — сільная атрута, які мае ў сабе медзь і аршэньнік: ня можна яго ўдыхаць, ня можна таксама і браць у рот. Ужываецца парыская зелень гэтак: насамперш дадаецца да парашку зелені крыха вады і робіцца з гэтага цеста, без камкоў. Пасьля асобна прыгатаўляецца гэт. зв. вапнянае малако: на 100 літраў „малака" бярэцца ў кошык 6 кілё добра перапаленай чыстай вапны і затопліваецца на хвільку ў ваду. Кошык пасьля прыкрываецца плахтамі. Вапна распадаецца на дробны парашок. Вапну гэткую зараз-жа заліваюць вадою, а прад ужываньнем перацэджваюць. У начыньне з цестам парыскай зелені уліваецца пасьля вапнянае малако, старанна і стала перамешваецца, каб зелень сама не апала на дно — і спырсківаецца. Для малодшых дрэваў і кустоў ужываецца паводле Д-ра Стравінскага наступная мешаніна „зелені:"

| | |
|---|---|
| Парашку зелені . . . . . | 10 грам |
| Вапны нягашанай . . . . | 20—30 „ |
| Вады . . . . . . . . | 12 літр. |

Для дрэваў старэйшых порцыя парашку зелені і вапны можа быць удвая большая, чым вышэй паказана.

Урэшце дзеля тэй-жа мэты нішчэньня пядзямера ў зямлі, увосені перакопываецца ці пераворываецца зямля паміж дрэваў.

З усіх гэтых спосабаў відаць, што няма ніводнага, якога можна ужываць цяпер улетку, калі пядзямер якраз і шкодзіць. Але „не тады сабак карміць, як на паляваньне трэба йсьці:" хто хоча аднак мець з саду карысьць,

той мусіць аб гэтым памятаць: **з восені** — закладаць абаронныя паясы, перакопываць зямлю, **узімку**—зьбіраць і паліць сухое лісьцё і адтрэсканую кару, асабліва калі ўсё гэта абмотана павучыньнем і **вясной**—спырсківаць адцьвіўшыя дрэвы расьцечай парыскай зелені. С. Я.

# Яблынная моль.

*Hyponomeuta malinella.*

І гэта так-жа вялікі шкоднік, перадусім дрэваў яблынных, ад чаго і мае свой назоў. Дрэвы нападзеныя ім выглядаюць гэтак:

Лісьцё, а часам і цэлыя галінкі паабматаны павучыньнем. Творацца гэтак гнёзды, у каторых знаходзіцца вялікае мноства жоўтых, чорна накрапляных, каля 2 см. доўгіх гусьвіц (рабачкоў). Разлазяцца яны з гнязда па ўсім дрэве, абжыраючы да чыста ўсё лісьцё. Некаторыя з іх на павучыньні спускаюцца на зямлю і з іх пасьля выклюнуцца маленькія рабенькія мятлікі, што ў Пятроўку лятаюць начамі і складаюць на дрэвах яечкі, па 50 штук у жоўтых, пасьля рудзеючых кругох. З гэтых вось яечак на другі год у пачатку мая і выклюваюцца тысамыя шкоднікі, якія ўжо ў канцы мая і далей і абжыраюць усю зелень садоў.

Дрэва нападзенае яблыннай моляй ня родзіць ня толькі ў той год, але і на наступны, а нярэдка і сусім высыхае.

Нішчыць яблынную моль найлепш яшчэ зімой і раньняй вясной, зьбіраючы старанна з кары накладзеныя туды яечкі молі. Перад распусканьнем пупушак на дрэве, спырсківаюцца яны расьцечай парыскай зелені. У разе, калі ў свой час (узімку і вясной) яечкі моляў ня былі зьнішчаны і гусьвіцы іхнія распаўзуцца па ўсім дрэве, дык не астаецца нічога іншага, як зьбіраць іх рукамі, або таксама спырсківаць парыскай зеленьню. Спырсківаньне гэтае цераз 10 дзён паўтараецца. Урэшце куклы моляў, закручаныя ў павучыньне, зьбіраюцца разам з лістамі: ў гэткіх гнёздах налічваюць па 600—800 штук куклаў. С. Я.

# Пчалярскі лемантар.

### Не лакомцеся на мёд.

У нас так завялося, што пачынаючы пчаляр, ледзь толькі прыдбае пару калод пчол, у першую чаргу стараецца іх выкарыстаць як толькі можа, каб нешта ды зарабіць. Такі пчаляр ня ведае напэўна ані ўмоваў пажытку, ані стану данае калоды, ані жыцьця пчалы — а ведае толькі адно як выбіраць мёд... і выбірае ўсё на чыста. Канец з гэтага такі, што пчолы пачынаюць слабець і нават да зімы йшчэ гінуць, а пчаляр такі зваліваe тады віну на самых пчол, на пагоду, на ваколіцу і г. д. Не, прыяцелі, ня будзьце прагавітымі, навучэцеся сьпярша ўмела даглядаць пчолы, прыглядвайцеся да калодаў і разважайце, якія маглі-б быць карысьці з вашае ваколіцы, рупцеся, каб вашыя калоды былі моцнымі і лепш хай лішні мёд астанецца для рою які зробіце, каб павялічыць пасеку.

### Не рабеце шмат раёў.

Другая важная абмылка пачынаючых пчаляроў, гэта імкненьне, каб мець як мага больш штучных ці натуральных раёў. Часта пчаляр так шмат іх наробіць, што як маладыя раі, так і калоды матчыныя робяцца нічога ня вартымі — усе да вясны не дажываюць, бо ім няма чаго есьці, ані як грэцца. Помнеце, што пачынаючаму толькі з 2-х сільных пнёў можна рабіць адзін сільны рой, які патрапіць назьбіраць сабе мёду на зіму. Калі-б вы з двух зрабілі яшчэ два, тады мусіце ім даць і цэлую вашчыну (або суш), а таксама і мёду ці цукру яшчэ перад восеняй. Аднак не забывайцеся, што моцны пень лепш зімуе і ў параўнаньні да сілы — менш зьядае мёду. Раі трэба рабіць толькі раньнія, да палавіны ліпня найдалей. Позныя раі даясьці да мэты цяжэй.

### Як зрабіць штучны рой.

Ёсьць некалькі спосабаў, як гэта рабіць, аднак найлягчэйшыя ёсьць два: рой складанец і рой ссыпанец. Рой **складанец** робяць адзін з 2—3—4 сільных пнёў. Дзеля таго ў харошы пажыткавы дзень да 12 гадзіны зрабеце так: прыгатоўце пусты вулік, улажэце ў яго пару рамак сушы, а калі ня маеце, то штучнай вашчыны. Той пусты вулік пастаўце блізка каля найсільнейшага пня. Тады трэба сільны пень падкурыць і ўзяць з яго 2 рамкі з крытым чэрам і пчоламі. Да рамак трэба добра прыгледзіцца, ці няма на іх часам маткі. Калі перагледзіце, улажэце іх у пусты вулік і лёганька накрыйце з верху мяшком. Ідзеце да другога сільнага пня, таксама падкурэце і вазьмеце з яго 1 рамку з крытым чэрам, устаўце ў пусты вулік, але трохі далей ад папярэдніх.

Другую рамку з чэрам з таго-ж вуліка прынясеце да пустога і строcшы з яе ўсіх пчол, якія на ей сядзелі, занясеце назад у свой вулік. Тое самае зрабеце з трэцім, а як ёсьць то і з чацьвёртым. Кожны раз рамкі і пчолы з іншага пня кладзеце трохі далей ад другіх. Рой цяпер знаходзіцца ў такім стане: 2 рамкі сушы, 4 рамкі чэру закрытага і някрытага з пчалою і яшчэ маладых пчол са 2—3 рамкі. Цяпер усіх пчол у новым вуліку трэба яшчэ падкурыць, каб яны набраліся мёду, ды каб прасяклі дымам і адным духам. За якіх 5—10 мінут пастулівайце ўсе рамкі да сябе на сярэдзіне і добра ўкрыйце гняздо падушкай саламянай або мяшком і матамі. Перад тым аднак трэба зірнуць на

рамкі і на дно вуліка, ці няма там кучкі пчол, падобнай да гарэху або яблыка. Калі б так было, дык гэта знак, што вы неасьцярожна ўзялі рамку з маткай і яе душаць чужыя пчолы. Тады зараз-жа бярэце тую грамадку пчол лёганька рукою і пырскніце на іх вадой, або хоць і сьлінай, каб ураталаваць матку. Матку замкнеце ў клетачку (матачнік) і пастаўце на сярэдзіне паміж рамкамі, а калі знаеце з якога яна вульля, то вярнеце яе тым пчолам. Калі-б маткі ў гэтым складанцы ня было, тады добра было-б, каб вы на сярэдняй рамцы якойсь выразалі кусочак вашчыны, каб было месца пчолам збудаваць матачнікі для будучай маткі.

Такі рой будзе мець толькі маладых нялётных пчол, і ім у рамку сушы трэба даць вады. Але можна зрабіць гэта караццей: адсуньце найсільнейшы пень на якога паўмэтра ад старога свайго месца, а гэты новы з роем умясьціце ад таго старога месца так, каб пчолы, што варочаюцца з мёдам з поля, раздзяляліся на два вулікі: стары і новы рой; тады і ваш рой будзе мець лётных пчол і ня трэба яму будзе вады.

Рой ссыпанец робяць так: бяруць райніцу, выймаюць з кожнага сільнага пня 1—2 рамкі дзе ёсьць чэр (крыты і някрыты), глядзяць ці няма маткі і ўсіх пчол з рамак страсаюць у райніцу ў адну грамаду. Пчолы старыя ўцякуць у свой вулей, а ўсе маладыя астануцца ў райніцы. Калі натрасіцё пчол са два кілёграмы, то ўсыпце іх у новы вулік на рамку з маладым чэрам і яечкамі з найлепшага пня ў пасецы. У рамцы пад яечкамі выражце дзірку для матачнікаў, а пчолам наліце ў рамку вады.

**(З „Укр. Пас.").**

## Як я зьбіраю і асаджваю рой.

Кожны пчаляр інакш зьбірае раі; адзін страсае з галінкі ў райніцу, другі зьмятае пяром ці шчотачкай, а трэці проста асьцярожна абразае галінку дрэва з роем і г. д. Я таксама зьбіраў раі living рознымі спосабамі, аж да таго часу, пакуль мне рой не асеў на плоце. О, тады было хоць купі мудрасьці... І прышло мне на думку, што пчолы вельмі ахвотна лезуць у якое-небудзь дупло і ўверх. Я знайшоў драўляную дзежачку ад сыра, нашмараваў яе ўсярэдзіне мёдам і прыставіў дагары дном у тое месца, дзе асеў рой, а знізу плоту падкурыў лёгка дымам і рой палез у тую дзежку, падобна як у вулік, не спраўляючы мне ані крыху труднасьці. З гэтага прыкладу я зрабіў сабе райніцу, у якую заўсяды лёгка і скора зьбіраю раі з усякага месца.

Райніца зроблена з саломы, моцна сшыта лыкам, падобная да звана. За дно райніцы прычэплена пятля, якой прывязваю яе да канца тычкі і вешаю дагары дном над роем зьверху. Каб рой ахватней лез у райніцу, да дна яе ўсярэдзіне прычэпліваю кусок вашчыны з мёдам. Райніца мусіць дакранацца да клубка рая так, каб пчолы не пералятаючы маглі лезьці ў райніцу. Тады знізу пад рой пускаю пару клубоў дыму з падкурача і пчолы рухаюцца з месца, падымаюцца ўверх у райніцу і чапляюцца да дна райніцы падобна як у вульлі. Калі пчолы асядуць, спускаю райніцу ўніз, перанашу да вуліка, адчыняю яго, стаўлю масток, кладу на яго райніцу адкрытым бокам да вульля. Пчолы падкурываю ўзноў дымам праз дзірку ў дне райніцы і яны хутка пераходзяць у вулік... *К. К.*

**Ад рэдакцыі.** Іншыя пчаляры зьняты ці сабраны ў райніцу рой не перасыпаюць зразу ў вулей, а трымаюць пчол у райніцы да вечара. Вечарам-жа ўпушчаныя ў вулей пчолы лепш асядаюць і хутчэй асвойваюцца.

## Як нішчыць мурашкі ў вульлі.

1. Пасыпце дробна-тоўчаным цукрам груба дзюркаваную губку да мыцьця і папажэце яе ў вулей ці каля яго. Як мурашкі абсядуць губку, кіньце іх у гарачую ваду, а як абсохне — паўтарэце.

2. Перарэжце мурашкам дарогу да вульлёў, паліваючы яе сьвежай гнаёвай жыжкай, карболевым квасам ці карболінэумам, або пасыпце яе дзеравяным попелам, крэйдай, сажай або раскрышанай на парашок вапнай.

3. Зруйнуйце гнёзды мурашак газай, серкавым пылам.

Найлепшы скутак асягаецца зруйнаваньнем гнёздаў і адгараджэньнем дуступу да вульлёў рознымі перашкодамі (напр. дзёгцем — *перэклад*.). Там дзе напад мурашак асабліва небясьпечны (напр. у паўдзённых краёх),там абводзяць пасеку бэтонавым ровам, у каторы наліваюць карболінэум...

(Паводле *„Bienen-Vater"*).

## Як гаспадарыць малаком чэская гаспадыня.

(Працяг, гл. „Самапомач" № 5 с. г.)

Сьмятану студжу пры цэнтрыфузе, а пасьля зараз вынашу ў склеп, у ваду, дзе згусьцеўшай сьмятаны ніколі на ўласную патрэбу ані крыхі не бяру, каб не рабіць паверх сьмятаны большым, як канешна быць мусіць. На штодзенную патрэбу сьмятаны мушу памятаць пры цэнтрыфугаваньні. Узімку трэба зьбіваць масла ў памешканьні цёплым, у маім выпадку ў кухні, улетку—ў сьцюдзёным. Тры гадзіны прад зьбіваньнем бяру сьмятану ў тое памешканьне, ў каторым б'ю масла, улетку стаўляю гаршкі з сьмятанай у балею, у каторай знаходзіцца на дробна патоўчаны лёд. Масельніцу (бойку) ўзімку спаласківаю гарачай вадой,а пасьля пераліваю сьцюдзёнай. Улетку наліваю поўную масельніцу сьцюдзёнай вады, дадаю да яе йшчэ лёду і халаджу яе гэтак праз тры гадзіны. Узімку зьбіваю

сьмятану абагрэтую на 16° Ц, улетку — на палову ніжэйшую (каля 8°)... Перш чым уліць сьмятану ў масельніцу, прагледжу добра, ці там няма якога бруду, які мог-бы туды мімавольна дастацца... Зьбіваю спачатку памалу, пасьля хутчэй, а пры канцы ўзноў памалу. Зьбіваю за 20—30 мінут, залежа ад цяплыні сьмятаны і памешканьня. Калі каровы ня кормяцца ніякэй зялёнай пашай, тады прад зьбіваньнем дадаю да сьмятаны крыху хварбы, якую купляю ў аптэчным складзе. На 1 літр сьмятаны даю 4—5 капляў; масла мае пасьля хорошы жоўты, крэмавы колер. — Калі ўжо масла зьбілася і сабралася ў кусок, выпускаю з масельніцы масьлянку, а на масла наліваю двойчы гэтулькі вады, колькі было сьмятаны і старанна перамываю.

Да гэтага месца ўсю работу рабіла асоба нанятая; цяпер аднак прыступаю да працы з а ў с я д ы я с а м а. Рукі старанна вымываю, голаў зьвяжу хусткай Вымаю з бочкі (масельніцы) кускі масла, выціскаю з іх ваду і разважываю. Пасьля кладу масла ў начыньне з вадой і ўважна выціскаю ,каб у масьле не асталася ніводная капля масьлянкі або вады, уціскаю ў дзераўляную хворму, аздобленую вырэзанай галінкай канваліі, выбіраю і кладу ўзноў у іншую судзіну з вадой. Гэту працу выконваю з пачуцьцём радасьці. Масла — золата нашых гаспадарак — найпрыгажэйшая, падлягаючая хвармаваньню маса, у пальцах маіх пераменьваецца ў бясконцыя хвормы і падабенствы, а мне здаецца, што стаюся рэзьбяром, працуючым над боскім творам, каторы падам чалавецтву як няштодзенную спажыву, асаблівы прысмак, цудоўны лек.

Б'ю масла заўсяды дзень прад тым, як пасылаю яго на продаж. У вадзе масла сьцьвярдзее, хворма астанецца непарушнай. канты ня сьціснуцца. Закручываю толькі ў белую чыстую паперу, якая ніколі ня сьмее быць зжаўцеўшай ці пашарэўшай. На паперы выціскаю штэмплем сваё імя—прозьвішча: Паперу рэжу на даволі вялікія кускі, каб масла магло быць хораша ўкручана (8 частак з аркуша).

| |
|---|
| Ia. selske maslo<br>Marie<br>Čížkove, Vrbčany |

Гадзіну больш-менш часу прад запакоўваньнем вымаю масла з вады, каб папера каплямі прыстаўшымі да масла за надта не прамокла і ня скорчылася, бо было-б гэта на шкоду выгляду масла. Усім гаспадыням раджу даваць маслу хворму чатырохкутную. Гэтак ухварманае масла выглядае большым кавалкам, чым масла бяз хвормы, або ў хворме круглай. Хто йдзе з маслам на торг, няхай на пробныя пакаштункі возьме адзін асобны кусок, рэшту хай не пазваляе распакоўваць, бо ўзімку скрэпшымі пальцамі паперу ўжо так не закруце, а ўлетку без патрэбы дасьць доступ да масла сонцу, цяплу і пылу. І адно і другое шкодзіць выгляду масла, а тымсамым і куплі.

Пры канцы дадам, што гэтак пастпаю пры вырабе масла ў сваей гаспадарцы ўжо дзесяць год і пры цэнах добрых і благіх дастаю на 4—6 кронаў за 1 кілё больш, чым на рынку. Хто маё масла раз пакаштаваў, становіцца сталым яго набыўцом, а спажыўцы пры спатканьні ня скупяцца з словамі прызнаньня і пахвалы."

*Канец*

# Як зьбіраць і прыгатаўляць грыбы.

Беларусь — гэта край ня толькі лясоў, але і грыбоў, ягад і ўсялякіх зёлак. Застановімся тут над самымі толькі грыбамі, а імённа над смаршчкамі і баравікамі.

З грыбоў можна мець і добры даход, а асабліва ў тых мясцовасьцях, дзе ёсьць многа лесу, а грунт для землярбства ня прыгодны. Але, нажаль, мы ня ўмеем як належыцца зьбіраць і даглядаць грыбоў і затым многа трацім, бо ў абароце гандлёвым грыбы блага прыгатаваныя, папаленыя, паламаныя — ня цэняцца. А затым, каб з грыбоў выцягнуць як найбольшую карысьць і як наймянш скрыўдзіць таго, хто гэтыя грыбы зьбірае і хто іх спажывае, трэба перасьцерагаць ніжэй пададзеныя правілы.

Як мы ўжо ўспаміналі, да сушэньня годзяцца толькі смаршчкі і баравікі.

Усе добра ведаем выгляд с м а р ш ч к а, а затым пераходзім адразу да

а) З ь б і р а н ь н я с м а р ш ч к о ў. Смаршчкі пачынаюць расьці ў нас раньняй вясной, г. зн. больш-менш у пачатку красавіка і растуць да канца траўня. Некаторыя гатункі смаршчкоў паяўляюцца і восеняй.

Зьбіраючы смаршчкі трэба зразаць іх пры корані ножам так, каб корань быў кароткі, зусім чысты, г. зн. без зямлі і якогась там моху, і старацца, каб не пакрышыць смаршчка. Ня трэба таксама шмат смаршчкоў класьці ў адзін кошык, бо яны крышацца і цана іх будзе меншая. Сабраныя так грыбы трэба адпаведна пэрабраць: меншыя прадаць сырымі, а большыя — сушыць.

б) С у ш э н ь н е. Найлепш сушыць смаршчкі на сонцы і ветры. Дзеля гэтага трэба ўзяць дзераўляныя рамкі і нацягнуць на гэтыя рамкі драцяную неаржавую сетку. Сырыя смаршчкі трэба класьці на сетку адзін каля другога, але ня можна класьці смар-

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

шчка на смаршчок, бо і ня так скора яны высахнуць і да таго могуць пацёрціся. Такія вось сеткі з грыбамі трэба класьці на мясцох найбольш ветраных і высака над зямлёй, каб усьцерагчы прад пылам, пяском і г. п. брудамі. Можна сушыць смаршчкі нанізаўшы іх на грубейшыя ніткі лянныя ці канапляныя (вянкі). Вянкі такія вешаюцца на чыстых пруточках і да таго таксама на сонцы і ветры Нізаць смаршчкі на ніткі можна праз корань (уздоў-ж) і шапачку або ўпоперак карэрьчыка і такі спосаб ёсьць лепшым, бо шапачка застаецца цэлай.

У печах сушыць смаршчкі (а ў нас бадай толькі гэтак і робяць) ня радзяць, бо іх можна лёгка перасушыць, папаліць, пэпэцкаць у попел. У печах можна толькі дасушываць тыя смаршчкі, што ня зусім яшчэ высахлі на сонцы, Дасушываючы смаршчкі трэба іх класьці на тоненька ў печы пасланай саломе, каб грыб не пабрудзіўся попелам.

в) Сартаваць смаршчкі высушаныя трэба так, каб асобна класьці грыбы большыя, цямнейшыя, добра высушаныя, бяз попелу і г. п., а асобна меншыя і яськейшага колеру.

г) зрабіўшы такі падзел з смаршчкамі і высушыўшы на сетцы ці ў вянку, трэба прад высылкай запакаваць іх у невялікія кошыкі ці карзінкі, берагі і дно якіх трэба заслаць чыстай незадрукаванай паперай (найлепей пэргамінавай). Гэтак абаронім грыбы перад запыленьнем і намачэньнем.

д) Смаршчкі высушаныя павінны пераховувацца ў чыстым, сухім, выбраным месцы. Не пераховываць там, дзе ёсьць вільгаць.

*(д. б.)* Б. Ю.

## Гаспадарчая хроніка.

10-гадоў існуе ўжо пры Віленскім Унівэрсытэце Аддзел Землябробскі. Угодкі гэтыя сьвяткаваліся ў Вільні 27 траўня сёл. Пачаткі Земл. Аддзелу (гэтак зван. „Студыюм") былі зроблены ў 1923—24 г. Ініцыятыва сарганізаваньня земл. Аддзелу належа да Аддзелу прыр. — матэматычнага гэтага-ж віл. унівэрсытэту, які ў 1924 г. устанавіў катэдру Прадукцыі расьціннай. На гэту катэдру, а таксама і на першага дырэктара „Студыюму" быў пакліканы праф. К. Рогойскі. Да 1928—29 г. „Студыюм" меў толькі два ніжэйшыя курсы; ад гэтага-ж 1928—29 году „Студыюм" было дапоўнена двума курсамі вышэйшымі, так што сягоньня творыць ужо закончаную цэласьць.

Да сягоньняшняга дня Аддзел Землябробства пры Віл. Унівэрсытэце скончылі з тытулам інжынера 33 чалавекі (27 мужчын і 6 жанчын). Сёлета лічыцца на Аддзеле 156 студэнтаў (107 мужчын і 49 жанчын). Дырэктарам Аддзелу ў сёлетнім акадэмічным годзе зьяўляецца праф. Э. Лелеш.

Аддзел да гэтай пары яшчэ ня мае права асобнага факультэту і зьяўляецца фактычна пададдзелам факультэту прырода-матэматычнага.

Карысьнасьць гэтай пляцоўкі на нашых землях мусіла-б быць відавочнай сама з сябе. Ці так ёсьць аднак у сапраўднасьці — сказаць тымчасам трудна. А гэта дзеля таго, што як сярод прафэсарскага пэрсоналю, так і сярод студэнства лішне глыбака йшчэ сядзіць традыцыя засьценкаў, хваліваркаў і двароў і за мала (вельмі мала!) зьвяртаецца ўвага на дастасованьне здабычаў агранамічнай веды да варункаў дробнага перадукім нашага беларускага селяніна.

А бяз гэтага поступ у нашай гаспадарцы немагчымы!

## Наша пошта.

Матэлёнак Я:—Падпіску на дзесятку „Самапомачы" атрымалі і часопісь (у двух часьцях) выслалі: ці атрымалі?

Кнігарні: „Добро" і Gebethner-Wolff" у Варшаве. „Самапомач" будзем Вам стала пасылаць.

Кенд. В: Паводле „старога" закону аб коопэратывах Суд мусіць зарэестраваць статут, калі прыняўшы яго не дае ніякага адказу ў працягу двух месяцаў. Больш напішам Вам аб гэтым, як атрымаем весткі з самога Суду. Што ў Вас новага?

Бернацкі Ул. і Курылёнак М. Курс Коопэрацыі пры рэд. Самапомачы каштуе 16 зл. (у расстрочку — 21 зл.). Запішэцеся ў м-цы верасьні.

Шышкоўскі Я: З апісаньня відаць, што гэта будзе Яблынная моль: прачытайце аб ёй у сяньняшняй „Самапомачы." — Ліпкія паясы проці пядзямера можна рабіць самому, а можна і купляць гатовыя. Выробляе іх фабрыка „Avenarius" і „Azot."

В. А—чанка: Аб зьбіраньні і прыгатаўляньні грыбоў пісала „Самапомач" летась (№ 5—6), а ў наступным нумары будзе зьмешчана і сёлета. — Аб жывакосьце як добрай пашы перадусім для сьвіней, знойдзеце таксама ў леташнім гадавіку „Самапомачы" (№ 9—10, на бачыне 59-ай). Калі гадавіка гэтага ня маеце, дык можам Вам яго выслаць; каштуе ўсяго тры залатоўкі, разам з перасылкай.

Вас. Засім: Малачарскія курсы што год ладзіць украінскі „Масласаюз" (Львоў, вул. Б. Гловацкага № 23.

